**У НУМАРЫ**



# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 24 (746) ГОД XV БЕЛАСТОК 14 ЧЭРВЕНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.


Сустрэчы з «Нівай»




Дзень буднішні, серада. Імжыць халодны і дакучлівы дождж. Схаваўшы галаву пад парасон, іду ў вёску Валілы. Перад вачыма краявід, бы на малюнку: чорнае поле, зялёнае балота, сярэбранае возера і сцяна сіняга лесу, вялікага, першабытнага... А ўсё неяк таямніча прыкрывае дажджлівая імгла.

На полі растрэсены гной, мяшкі з бульбай і людзі пры баразнах. Ідзе пасадка бульбы. Халодны дождж не змог прагнаць іх пад дах утульнай хаты. Цяжкая, назойлівая праца, ды адкласці яе нельга, бо канец жа мая, бульба даўным-даўно павінна ўжо расці. Аднак гэтае дажджлівае надвор'е, капрызная халодная вясна...

Спыняюся на хвілінку.

— Што вы, пане, так стаіце? — адазвалася нейкая жанчына. З-пад мяшка, якім прыкрывалася ад дажджу, паказаўся яе малады твар. — Хадзіце сюды, памагаць будзеце.

І зрабілася мне сорамна. Я ж прыехаў расказваць гэтым людзям пра сваю працу, пра газету, у выданні якой прымаю ўдзел, пра трудныя рэдакцыйныя турботы, пра справы шырокага свету. Гэта з нагоды Дзён асветы, кніжкі і друку. А гэтыя людзі вось цяпер на полі... у дождж... Ці якраз праблемы, якія хачу ім прадставіць, найважнейшыя цяпер для іх, ці таго яны ад нас чакаюць, ці маю я права забіраць ім каштоўныя мінуты, прызначаныя на неадкладную працу і заслужаны адпачынак? Пытанні сыплюцца, як бульбіны ў баразну.

Солтыс не хоча падаць мне рукі.

— Што вы! — бароніцца. — Я толькі што ад гною, зайшоў у хату на перакур, зараз зноў у поле. — І не старaецца схаваць свайго нездавальнення. — Аа, на сустрэчу? З «Нівы»? Выпісваю, а як жа, дачка чытае. Толькі, каб вы паслязаўтра, на Міколу, тут фэст будзе. Сёння наўрад ці зыдзецца народ, хіба ж вы што па справе гэтай вапны?..

Вапна... Чуў я пра яе яшчэ ў Гарадку. Якраз калі гаварыў са старшынёю гарадоцкай грамадскай рады Уладзімірам Котам, з Беластока прыехала шматлікая даследчая камісія па справе... вапны. Прыехалі разбіраць скаргі сялян, якія павысылалі яны ў Цэнтральны Камітэт партыі, у Раду Дзяржавы, у Міністэрства абароны... Нейкі дзядзька заклікаў міністра Ярузэльскага: «Таварыш міністр абароны, бараніце нас ад гэтай вапны!» А ў Валілах адзін з гаспадароў — бывалы ў свеце, заслужаны чалавек, член партыі — заявіў:

— За тое, што начаўплі яны тут з гэтай вапнай, дык не прэмію, а пракурора ім паслаць.

Аказваецца, што прэзідыум ГРН у Гарадку дагаварыўся з мясцовым ГС, што правядуць на сваёй тэрыторыі камплектнае, суцэльнае вапнаванне поля. Дагаварыліся і... перасалілі, а дакладней кажучы — паравапнавалі, толькі не тое, што трэба. Гарадоцкая грамада атрымала прыдзел 3.100 тон вапны. Спецыяльныя брыгады мелі даставіць гэтае неабходнае мінеральнае ўгнаенне проста на поле і там згодна з указаннямі агранома і патрэбамі гаспадароў раскінуць.

— Ніхто нас не пытаў, ці мы хочам гэтую вапну, ці не.

— Сыпалі без ніякага парадку, дзе папала, каб толькі хутчэй.

— Вось тут, за святліцай ляжыць горба.

(Працяг на стар. 3)



*«Ой, бярозы ды сосны, партызанскія сёстры», — спяваюць ля «кастра» паўлаўскія «партызаны» пад акампаніямент свайго сябра Віктара Мартынюка.*

## Было іх чатыры найлепшых

І так, закончыўся чарговы цэнтральны агляд драматычных гурткоў БГКТ. Было іх чатыры найлепшых. Былі гэта ў асноўным амбітныя, вядомыя ў сваім асяроддзі (ды і не толькі ў сваім) гурткі з Паўлаў (Бельскі павет), Сухінічаў (Сакольскі), Семяноўкі (Гайнаўскі) і Літвінавіч — (Сямяціцкі павет).

Гурткі гэтыя нямала ўжо папрацавалі. Гурток у Сухінічах існуе, напрыклад, ад 1949 года, ад 1956 г. існуюць паўлаўскі і семяноўскі гурткі, крыху маладзейшы — гурток у Літвінавічах, бо існуе толькі ад 1962 г. Доўгая і старанная праца акцёраў-аматараў дала свае вынікі — гурткі з'явіліся пераможцамі ў павятовых элімінацыях, у якіх прынялі ўдзел аж 33 гурткі. Шкада аднак, што не было сярод гэтых 33-ох ніводнага гуртка з Беластоцкага павета, які выразна адстае ў гэтых адносінах ад іншых. Ці не ў самазаспакаенні тут справа, ці не блізкасць большага цэнтра культуры адыграла тут сваю адмоўную ролю?

Драматычныя гурткі ўносяць вялікі ўклад у развіццё беларускай культуры на беластоцкай вёсцы, і іх цэнтральны агляд штогод з'яўляецца як бы падсумаваннем, ацэнкай культурнай працы БГКТ.

Беларуская нацыянальная культура цікавая і шматбаковая, і ўсім вядома, што варта яе папулярызаваць не толькі на Беласточчыне, але і ва ўсёй краіне.

Як жа робяць гэта нашыя гурткі?

Перш за ўсё самааддана. Асабліваe ўражанне ў гэтых адносінах зрабіў на мяне гурток з Паўлаў, які выступіў з п'есай Тадэвуша Папера «Аповесць аб загінуўшым салдаце». Справа тут нават не ў п'есе. Справа тут у стараннасці. Прыцягнулі з сабой жывы лес, хвою, старанна зрабілі дэкарацыю, «разлажылі» касцёр. Прыехаў з акцёрамі загадчык школы ў Паўлах, выпускнік беларускай філалогіі нашага СН-у, Аляксей Максімюк; дасканалая ігра мясцовай настаўніцы Валі Амельянюк (заканчвае ў гэтым годзе ў СН-е польскую філалогію). Валя не толькі артыстка, яна таксама кіраўнік калектыву ўжо 2 гады. Хацелася выбраць нешта ідэйнае, нешта такое, каб падкрэсліць свята Перамогі. Не знайшоўшы ў сябе нічога адпаведнага на беларускай мове, Валя выбірае п'есу польскага аўтара і самастойна перакладае яе на беларускую мову.

Калі ўжо гаварыць аб самааданасці, дык

(Працяг на стар. 3)



*Эдуард Рудніцкі — не толькі добры кіраўнік драматычнага гуртка ў Сухінічах, але і дасканалы акцёр.*

## БГКТ хроніка

■ У Грабенях (Дуброўскі павет) рэактываваўся гурток БГКТ і зараз налічваецца ў ім 10 членаў. На сходзе, які адбыўся 10-га мая, было выбрана новае праўленне, у склад якога ўвайшлі: Анатоль Каралюс — старшыня, Анатоль Радзівон — сакратар і Уладзімір Латоўскі — скарбнік.

■ 17-га мая арганізаваўся гурток БГКТ у Сынкоўцах на Дуброўшчыне. Члены БГКТ старшынёю гуртка выбралі Івана Марчука, сакратаром Лявона Гічана і скарбнікам Лявона Гічана, сына Івана.

■ 18-га мая ў Варшаве міністр культуры Люцыян Матыка для вялікай групы дзеячоў культуры ўручыў адзнакі «Заслужанага дзеяча культуры ПНР». Сярод узнагароджаных ёсць таксама член прэзідыума ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі.

■ 24-га мая бельскі аддзел БГКТ арганізаваў элімінацыі на беларускую песню. Салісты Анані Ясюк і Анна Радзіванюк, дуэты — Еўдакія Навакоўская і Анна Кубай, а таксама Ніна Філіманюк і Люба Паўлючук будуць рэпрэзентаваць бельскі аддзел на цэнтральных элімінацыях у Беластоку.

■ Гарадскі аддзел БГКТ v Беластоку правёў элімінацыі на беларускую песню 26 мая. На цэнтральныя элімінацыі закваліфікаваны — салістка Марыся Рэкун і два дуэты: Ніна Карпюк і Валя Прылужынская, а таксама Зоя Цімашук і Міхась Баравік.

■ Гайнаўскі аддзел БГКТ з нагоды 25-цігоддзя народнай улады прымаў удзел у агульнадзяржаўным конкурсе пад загалоўкам: «Кожны дзень служым сваёй Айчыне» і дабіўся даволі добрых вынікаў. 26 мая ў клубакавярні прафсаюзаў у Беластоку аддзелу быў ўручаны дыплом, а старшыні аддзела Аляксандру Іванюку — грашовая ўзнагарода.

■ 28-га мая ў Беластоку адбыўся справаздачна-выбарчы сход навуковага гуртка, які існуе пры Галоўным праўленні. На ім былі абмеркаваны далейшыя напрамкі працы і выбраны новыя ўлады. Праўленне гуртка, у склад якога ўвайшлі Аляксандр Баршчэўскі, Мікола Гайдук, Уладзімір Юзвюк і Уладзімір Паўлючук, узначаліў Юры Туронак.

(мх)

# Было іх чатыры найлепшых



Добра ігралі ўсе маладыя артысты з Семяноўкі Гайнаўскага павета, якія выступілі з п'есай Янкі Купалы «Прымакі».



Настаўніца Валя Амельянюк.

Пачатак на стар. 1

нельга не сказаць і аб гуртку ў Сухінічах, якім ужо чуць не 20 год кіруе мясцовы гаспадар Эдуард Рудніцкі.

У гэтым годзе на Дзень дзеяча культуры за сваю працу ён атрымаў ўзнагароду ГП БГКТ.

Пытаюся, як можа ён сумяшчаць працу на гаспадарцы і заангажаванне ў драматычным гуртку.

— Працы гаспадар мае нямала, гэта вядома ўсім, — гаворыць ён, але вечарамі наш «тэатр» — гэта для мяне ўсё.

Усё — амаль 20 гадоў. Гэта вельмі прыемна, што тут, на перыферыі, знайшоў ён сваё прызванне. Бо Эдуард Рудніцкі — гэта (як на гаспадара) дасканалы акцёр. Добра іграюць і яго сябры Галіна Шчасновіч, Кастусь Малішэўскі і іншыя, якія прымалі ўдзел у п'есе С. Яновіча «Люцынка-інжынерыха».

Анатолю Мішчуку з гуртка ў Літвінавічах Сямяціцкага павета вельмі ўдалася роля бацькі ў п'есе У. Паўлючука «Конская кніжка».

Кінулася мне ў вочы тое, што толькі ў двух гуртках — з Сухініч і з Семяноўкі — артысты-аматары ігралі больш-менш роўна. Асабліва з Семяноўкі. На сцэне адчувалі сябе вельмі свабодна, і за ігру можна было б ім даць першае месца, каб не некаторыя пагрэшнасці ў канцы спектакля. Відаць, п'еса Янкі Купалы «Прымакі», з якой яны выступілі, вельмі прыпала ім да густу, калі так добра ігралі.

«Люцынка-інжынерыха» С. Яновіча ў выкананні драматычнага гуртка з Сухініч (Сакольскі павет).

У паўлаўскім калектыве верхаводзіла Валя Амельянюк (і пры падрыхтоўцы, і на сцэне), іншых за яе постаццю амаль не было відаць. І не чуваць. Ці хваляванне, ці прывычка да невялікіх зал, ці тое, што калектыў амаль увесь новы, малады? Маладыя акцёры-аматары павінны зразумець, што акцёр на сцэне павінен быць, я б сказала, натуральным у сваёй ненатуральнасці. Гэта якраз удалося настаўніцы Валі.

У літвінавіцкім гуртку, які выступіў з п'есай У. Паўлючука «Конская кніжка», тон надаваў 20-гадовы хлопец Анатоль Мішчук, якому роля бацькі маладой дзяўчыны вельмі ўдалася.

Трэба, каб павятовыя ўлады прысвяцілі больш увагі вясковым драмгурткам. Каб дапамагалі з падборкай рэпертуару (маладыя акцёры іграюць найчасцей усё, што пападзе пад руку), каб дапамаглі ў арганізаванні сталых выездаў у прафесіянальны тэатр.

Журы цэнтральнага агляду драматычных гурткоў БГКТ мела нялёгкую задачу. Тут высокаідэйны змест, тут прыгожае афармленне, тут роўнае акторства. Каго вылучыць?

Усе згадзіліся аднак з тым, каб першае месца прызнаць гуртку з Паўлаў, II — з Сухінічаў, а III і IV падзялілі паміж сабой гурткі з Семяноўкі і Літвінавіч.

Думаю, што такое прызнанне да многага забавязвае.

**Ада Чэчуга**

**Фота Цаф — Сянько**



Артысткі з літвінавіцкага гуртка разважаюць з запалам аб праблемах сучаснай моладзі.



І што ж нам пакажа наступны гурток?

# Школа ў Старым Корніне

Школьны будынак драўляны, ашалёваны, памалёваны і выгляд яго з вуліцы даволі прыемны. Праўда, ён цеснаваты і менавіта таму, не чакаючы дазволу і ініцыятывы настаўнікаў і пры дапамозе бацькоўскага камітэта, на школьным панадворку пабудавалі даволі хутка невялікі барак, які выкарысталі на школьную майстэрню. Паміж майстэрняй-баракам і школьным будынкам знаходзіцца агарод, які агароджаны і ў якім шмат прыгожых кветак і дрэў. Усё тут дагледжана і цікава размешчана, усё тут буйна расце. Расце таксама ў гэтай школе з кожным годам узровень навучання і выхавання. Аб гэтым сведчыць той факт, што выпускнікі яе паспяхова здаюць экзамены ў тэхнікумы, ліцэі і прафесіянальныя школы. У бягучым годзе на 18 васьмікласнікаў 17 чалавек падало прашэнні аб прыняцці іх у паасобныя школы і ў хуткім часе будуць здаваць туды экзамены.

У гэтай школе 123 дзяцей вучыць 7 настаўнікаў на чале з Кастусём Яконюкам. Па іх ініцыятыве ў школьнай майстэрні разрастаецца цікавымі экспанатамі «Ізба памяці» — мініятурны школьны музей баявой славы людзей з трох вёсак — Старога Корніна, Карыціск і Ягаднікаў. Школьнікі з гэтых вёсак сабралі здымкі, медалі і дакументы мясцовых удзельнікаў II-ой сусветнай вайны і абаронцаў маладой улады ў Польшчы. Бачым тут здымкі, медалі і дакументы Хведара Чурака, які абараняў Варшаву ў 1939 годзе Міхаіла Красько, Аляксандра Мікуліча, Івана Масальскага, Дзмітра Сурэля — салдат Савецкай Арміі, Цімоха Чурака, Аксеня Ваўрынца, Кастуся Яканюка, Ігната Сурэля, якія многа перажылі за перыяд другой сусветнай вайны, бачым тут здымак Міхаіла Томчука, які ваяваў з бандамі Лупашкі і Бурага. Пры кожным здымку апісанне і нейкія дакументы. У гэтым музеі ёсць таксама іншыя каштоўныя экспанаты, як мундзіры, пашпарты сялян з перыяду нямецкай акупацыі, кацялкі, каскі, мячы і г.д.

Ізба памяці расказвае аб геройстве мясцовых ціхіх людзей, аб якіх нават прызабылі многія, а якія прыспешылі час вызвалення ад нямецкіх захопнікаў і якія са зброяй ў руках змагаліся за нашую народную ўладу пасля вызвалення ў барацьбе з мясцовай рэакцыяй. Ізба памяці — каштоўная ініцыятыва школы. Старакорнінскую ініцыятыву варта выкарыстаць настаўнікам з іншых мясцовасцей.

*Міхась Хмялеўскі*

# Над морам песні беларускія

Беларускія дзяўчаты і хлопцы з Беласточчыны, якія вучацца або працуюць у Гданьску, сабраліся ў суботу вечарам 23.V.70 года ў гданьскім аддзеле БГКТ. Усе знаёмыя, усе свае, клімат дасканалы. Успамінаюць родныя мясціны... Над Матлавай прахожыя гаражане слухаюць беларускія песні.

Вечарыну з нагоды Дзён кніжкі адкрыла сакратар аддзела Аня Красько. Прывітаўшы ўсіх цёплым словам, яна прачытала добрую для ўсіх беларусаў гданьскага аддзела навіну: пастановай з 20.V.70 г. Прэзідыум МРН у Гданьску прыдзяліў аддзелу новае памяшканне, якое складаецца з двух залаў, ды знаходзіцца ў цудоўным месцы — на вуліцы Новы Тарг 8/10 насупраць уладара мораў Нептуна, у старой частцы горада.

Падзяку за добрую працу гданьскаму аддзелу ад ГП перадаў кіраўнік культурна-асветнага аддзела БГКТ Ул. Паўлоўскі.

Затым свае вершы чытаў Я. Чыквін.

У мастацкай частцы выступіла грэцкая танцавальна-харавая група пад кіраўніцтвам Марыкі Стэфосіс. Грэцкія дзяўчаты спявалі цудоўныя песні М. Тэадаракіса, выконвалі свае народныя танцы. А на заканчэнне выступіла «Маланка» — беларускі харавы квартэт у складзе: Зіна Сахарчук, Аня Красько, Галіна Варшыцкая і Барбара Радзівон. Акампаніявала заўсёды сімпатычная Ірэна Мельнікава, мастацкі кіраўнік. Вечар вяла надзвычай удана дзяўчына са Шчытоў, студэнтка ВСП, Людміла Бяроза.

Незабыўны вечар-спатканне працягваўся да самай раніцы. (іч)

# У ВАЛІЛАХ

**(Працяг са стар. 1)**

Адна толькі бяда. Асабліва кавалерам у час фэсту, як падап'юць, дык што і раз хтосьці з галавою ўлезе ў горбу гэтага белага паскудства.

— А на загуменні, за горкай. Можаце паглядзець. Там спыхачам раўнялі і з зямлёй мяшалі, каб не можна было ўстанавіць, колькі гэтай вапны яшчэ засталося.

Хадзіў я, глядзеў. Не хлусілі гаспадары.

— І за ўсё гэта мы цяпер мусім плаціць. Папрысылалі нам наказы на 1000, 1200 і больш зл.

— А аграномка са старшынёю па 12 тысяч зл. прэміі дасталі за дасканалае «выкананне» плана вапнавання.

— Хай гром іх за такое вапнаванне. Толькі поле нам змарнавалі.

Відаць, глыбокую рану ў сэрцах валілаўцаў выела гэтая вапна. Не пачуў я ані аднаго голасу ў абарону тых, хто наладзіў гэтае вапнаванне. Што ж, прыдзецца яшчэ вярнуцца да гэтай справы, калі партыйна-дзяржаўная камісія дакладна разбярэцца ва ўсіх яе дробязях.

Сустрэча праходзіла ў вясковай святліцы. Абсталявалі яе сабе жыхары Валіл уласнымі грамадскімі сіламі. Калісьці была тут звычайная сялянская хата. А зараз... Чыстыя столікі, крэслы, тэлевізар, газеты, толькі «Нівы» там не хапае, аддзел асветы яе не выпісвае.

— Маем яшчэ шашкі, шахматы і пінг-понг, — заяўляе Міраслаў Германскі, які тут з'яўляецца святліцовым і адначасова намеснікам старшыні гуртка ЗМВ. — Вось нядаўна закончыліся тут заняткі ў школе здароўя, а раней ЗМВ праводзіла праблемныя курсы. У святліцы, калі няма тэрміновай працы ў полі, заўсёды поўна людзей. Часам, як які цікавы фільм, дык не хапае ўсім крэслаў, а маем іх аж 60.

Пры суседнім століку сабраліся дзяўчаты. Яны штодзень ездзяць у школу аж у Беласток.

— Каб паспець на заняткі, дык мусім устаць а 5-ай гадзіне раніцы і дамоў вяртаемся на 5—6 вечара, — сказала мне адна чарнавалосая прыгажуня. Гэтая заўзятасць і вытрымка вясковых дзяўчат мае штосьці супольнага з гераізмам.

Пакідаю я вёску Валілы амаль апоўначы. Людзі ўжо спалі. Заўтра ў іх зноў дзень цяжкай працы.

*В. Рудчык*

# БЕЛАРУСКІЯ ВЕРШЫ

Культурна-грамадскі месячнік «Życie i Myśl», які з'яўляецца органам каталіцкага аб'яднання «PAX», у 4 нумары з гэтага года змясціў шырокую падборку беларускіх вершаў у апрацоўцы вядомага польскага пісьменніка Яна Гушчы. У падборцы знайшліся вершы Максіма Танка, Уладзіміра Дубоўкі, Канстанцыі Буйла, Васіля Віткі, Міколы Аўрамчыка, Аляксея Русецкага, Анатоля Вярцінскага, Анатоля Вялюгіна, Алега Лойкі, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Дануты Бічэль-Загнетавай, Сяргея Панізніка, Янкі Сіпакова, Петруся Макаля і Людмілы Заблоцкай.

Да падборкі дадзены ўступ Яна Гушчы. Ва ўступе піша ён, што найбольш характэрнай з'явай сучаснай беларускай паэзіі з'яўляецца адыход ад дэкларатыўнасці і таннага пафаса на карысць рэчаіснасці. Вершы датычаць не толькі адносін чалавека да грамадства, але і да самога сябе, да прыроды. Аўтар інфармуе, што Лодзінскае выдавецтва падрыхтоўвае выданне анталогіі сучаснай беларускай паэзіі. (п)



**Карэспандэнцыя з Мінска**

## МІЖНАРОДНЫЯ СПАБОРНІЦТВЫ НА КУБАК БССР ПА ФЕХТАВАННІ СЯРОД ЖАНЧЫН

У красавіку 1970 года ў Мінску — сталіцы Савецкай Беларусі — адбыўся пяты традыцыйны міжнародны турнір фехтавальшчыц на Кубак Беларускай ССР. У ім прынялі ўдзел спартсменкі Балгарыі, Венгрыі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Польшчы, Румыніі, СССР, Федэратыўнай Рэспублікі Германіі і Швецыі. Сярод 88 удзельніц 6 чэмпіёнак свету, не лічачы пераможніц сусветных першынстваў у дружыновых паядынках. Некалькі спартсменак з тытуламі чэмпіёнак і прызёрак Алімпійскіх гульняў.

У выніку напружаных баёў пераможцай у індывідуальным першынстве на Кубак БССР аказалася румынская спартсменка Анна Паску, якая ўпершыню вывезла індывідуальны трафей у Румынію. Другое месца заняла Е. Белова і 3-е В. Бурачкіна (СССР).

За дружыновы прыз змагаліся рапірысткі Масквы, Беларусі, Румыніі і Венгрыі. Двухразовыя ўладальніцы Кубка БССР — фехтавальшчыцы Румыніі, спачатку прайгралі масквічкам (7:9), а затым беларускам (5:9). У рашаючым матчы Масква — Беларусь мацнейшымі аказаліся спартсменкі Масквы — 9:6. Яны ўпершыню заваявалі пераходны Кубак БССР.

На здымку: агульны выгляд залы, дзе адбываліся спаборніцтвы.

# KONTRASTY

Самай цікавай публікацыяй чэрвеньскага нумара беластоцкіх «Кантрастаў» з'яўляецца артыкул «Вяртаемся сюды кожны год». Яго аўтар — шведскі вучоны, праф. Кнут Олёф Фальк, які ўжо 35 год вывучае гісторыю і моўныя асаблівасці Сувальшчыны і прымыкаючых да яе раёнаў. Піша ён: «...сувальскія мясцовыя назвы адлюстроўваюць розныя перыяды гістарычнага развіцця сувальскай зямлі. Яны даказваюць, што першымі жыхарамі гэтай зямлі былі балтыйскія яцвягі, затым наступіў перыяд шматзначных літоўскіх уплываў, а пасля балтыйскага перыяду. Сувальшчына перажыла беларускую і польскую каланізацыю. Усе гэтыя перыяды знаходзяць сваё пацвярджэнне ў мясцовых назвах...»

Яцвягаў разбілі крыжаносцы. Пасля крывавага бою ў 1283 годзе перасталі яны існаваць як племя.

Праф. К. О. Фальк сцвярджае далей: «Нямнога засталося слядоў пасля беларускай мовы ў назвах на Сувальшчыне, нягледзячы на тое, што беларускія ўплывы аж да XIX стагоддзя былі там шматзначныя. Часамі аднак сустрэць яшчэ можна сапраўдны беларусізм, як для прыкладу «Кругло» — назва возера ў Сувальскім павеце, ля мясцовасці Сідор. Аб беларускім мінулым сведчыць хіба «Стрэлковізна», як даўней называлася вёска Стжэльцовізна. На ляснічай карце з 20-х гадоў XIX веку знайшоў я назву «Погорэлец», сённяшні Погожэлец (воз.). Гэта адзін з прыкладаў так званага «трэбакавання» — вымаўлення «r» — замест «rz» (трэба — замест — тшэба). Гэта характэрная прыкмета для беларускай мовы. Яе рэшткі можна яшчэ знайсці на Сувальшчыне. На берагах возера Вігры чуў я ў 30-х гадах дзеяслоў «прэтаковаць», г.зн. вымаўляць, прэтак — замест — пшэтак (рэка — замест жэка...).

Гэты артыкул варта і трэба ўважна прачытаць. «Беларускую» тэму знойдзем таксама ў матэрыяле пра друкароў, якія ў XVI стаг. заснавалі друкарню ў Заблудаве.

Затым прапануем пацікавіцца артыкуламі: Э. Вайтоўскага — «Дзіця на свет не просіцца», З. Вільчэўскага — «Апошняя спроба гітлераўскай дыверсіі», В. Петэра — «Сельская гаспадарка за 20 год» і Г. Касерадскага пра слаўнага земляка з горада Бельска Язэпа Такарэвіча. У літаратурнай частцы «Кантрасты» шмат месца адводзяць членам карэспандэнцыйнага клуба маладых пісьменнікаў, які дзейнічае ў Беластоку. Успамінаецца там пра Алеся Барскага, Яна Чыквіна, Сакрата Яновіча і некаторых другіх «белавежцаў». (вр)

# ШТО ЧУВАЦЬ?

### ПРА НОВУЮ ТКАНІНУ

На беластоцкім прадпрыемстве ваўнянай прамысловасці імя Сяржана, якое мае таксама свой філіял у Міхалове, рыхтуюць новую, высокаякасную тканіну з дадаткам аніляны і эляны. Эканамісты прадпрыемства спадзяюцца, што на новай тканіне фабрыка заробіць «на чыста» 7,5 мільёнаў зл. у год.

### ПРА МАШЫНЫ ДЛЯ СЯЛЯН

Канструктары з фабрыкі дакладных вырабаў у Чорнай Беластоцкай апрацавалі новую, болей спраўную канструкцыю механічнага растрасальніка гною. Яны стараюцца поўнасцю механізаваць цяжкую працу селяніна пры вывазцы і раскідванні гною.

### ПРА ЭКСПАРТ

У мінулым годзе шматзначна павялічылася экспартная прадукцыя прамысловых прадпрыемстваў Беластоцкага ваяводства, асабліва на экспарт у заходнееўрапейскія краіны. Высокімі дасягненнямі ў гэтай галіне можа пахваліцца фастаўскі камбінат, які сваю экспартную прадукцыю павялічыў больш як у тры разы.

### ПРА МЕЛІЯРАЦЫЮ

Ваяводскія спецыялісты апрацавалі план меліярацыі сенажацяў і палёў у Беластоцкім ваяводстве. Прадбачвае ён, што ў гадах 1971—75 будзе меліяравана амаль 45 тысяч га зялёных угоддзяў і правядзецца ў той жа час дрынажоўка 55-ці тысяч гектараў ворнай зямлі. Між іншым, меліяраваны будуць рэкі Нараў і Бебжа. Для ажыццяўлення гэтага плана неабходна выдаць адзін мільярд 800 мільёнаў зл.

### ПРА КУРЭЙ

Прадукцыя куранят у інкубатарах на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства павялічыцца з 2 мільёнаў 300 тысяч штук у гэтым годзе да 4-рох мільёнаў 200 тысяч штук у 1975 годзе. Гандлёвыя ўстановы маюць намер купіць ад гадоўцаў у гэтым годзе 6 тысяч тон жывых хатніх птушак, а ў 1975 годзе — аж звыш 10 тысяч тон. Дык варта ўжо зараз падумаць пра абсталяванне новай курынай фермы ў сваёй гаспадарцы. Гадоўля курэй высокарэнтабельная.

### ПРА КЛУБЫ «РУХ»

У Беластоцкім ваяводстве дзейнічае зараз 340 клубаў «Руху», 12 сярод іх было абсталяваных у час сёлеташняга святкавання Дзён асветы, кніжкі і друку. Калі ўлічыць, што ў Беластоцкім ваяводстве ёсць 295 грамадскіх радаў, дык бачым, што клубы «Рух» даволі густай сеткай прыкрылі нашы вёскі і цесна зрасліся з культурным іх краявідам. У клубах гэтых праходзяць сустрэчы з пісьменнікамі і журналістамі, наладжваюцца спектаклі тэатра лялек і канцэрты сімфанічнага аркестра.

### ПРА ПАЖАРНІКАЎ

У мінулым годзе ў вёсках Беласточчыны здарылася 1114 пажараў. Пайшло з дымам featureнага дабра на 60 мільёнаў зл. Гэтую высокую цану заплацілі мы найчасцей за сваю лёгкадумную неасцярожнасць.

У вёсках Беластоцкага ваяводства дзейнічае зараз амаль паўтары тысячы добраахвотніцкіх супрацьпажарніцкіх каманд. У барацьбе з агнём дапамагае старэйшым моладзь, згуртаваная ў ЗГП і ЗМВ. Вясковыя маладзёжныя супрацьпажарніцкія каманды дзейнічаюць зараз у 700 мясцовасцях.

*М. Нурэцкі*

ЗНЕШНЯЕ ЎПРЫГОЖВАННЕ ХАТ ПАЎДНЁВАГА ЎСХОДУ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ.

# • ГАНАК •

У старых мясцовых хатах ганкаў не будавалі. Паявіліся яны толькі пасля І сусветнай вайны ў асноўным, як дэкаратыўны элемент новых хат, месца адпачынку пасля працы, а ў выпадках ганкаў-веранд, як часовыя кладоўкі і дадатковы куточак для вырошчвання дамашніх кветак. У залежнасці ад традыцыі вёскі і эстэтычных упадабанняў цесляў будуюцца ганкі або ганкі-веранды, пры чым у некаторых грамадах Сакольскага і Беластоцкага паветаў яны адсутнічаюць амаль зусім, у іншых ізноў — Бельскага і Гайнаўскага паветаў — каля паловы хат мае ганкі. Даволі рэдка сустракаюцца дашкі над знешнімі дзвярыма, якія часткова замяняюць ганкі.

Найбольш распаўсюджаныя формы ганкаў ілюструюць 4 фотаздымкі (С. Грыгарука і М. Гарбачука з Цялушак, С. Ясюка з Трасцянкі і М. Петэрсона з Плюціч). Пабудаваны яны на невялікай (4—6 м²) цэментавай пляцоўцы. Чатыры стаякі падтрымліваюць двухсхільны дашак, пакрыты дахоўкай або бляхай. Ніжняя частка ганка абіваецца да паловы філянговымі дошкамі, а ў некаторых выпадках (гл. М. Петэрсон) пакрываецца разьбой. Ганкі такія рэдка маюць дзверцы, але заўсёды па баках замацоўваюцца лаўкі. Архітэктурнай разьбой упрыгожваюцца нават невялікі шчыт, вятроўкі, падшчытнік, падстрэшнік і стаякі. Часта на шчыце ганкаў выступаюць невялікія канькі. Узоры гэтых упрыгожанняў паказаны на папярэдніх фотаздымках. Часта яны складаюць працяг аналагічных элементаў разьбы на хатах, а часам уводзяцца зменшаныя, дастасаваныя да велічыні дэкараванага элемента, або стасуюцца зусім новыя ўзоры.

*Ул. Юзвюк*
*фота аўтара*



*Ганак Міхася Петэрсона з вёскі Плюцічы Бельскага павета.*



*Ганак Сымона Грыгарука з вёскі Цялушкі Бельскага павета.*



*Ганак Сымона Ясюка з вёскі Трасцянка Гайнаўскага павета.*



*Ганак Максіма Гарбачука з вёскі Цялушкі Бельскага павета.*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

### ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

Усім вядома, што ў нашых крамах найлягчэй можна купіць валавіну. Здавалася б, што ж можна з яе зрабіць? Ну, добры суп, нейкія піражкі з начынкай (каб выкарыстаць мяса), можна, праўда, зразы, або гуляш, рамштэкс ці беф-строганаў. Аднак мы ўсе найчасцей і найбольш ахвотна робім на другое блюда ўсё з свініны.

Валавіна ж вельмі часта можа замяніць нам не толькі свініну, але нават і бараніну. Прыкладам гэтага можа быць хаця б

#### ШАШЛЫК

Ідэальна правільны шашлык павінен быць з бараніны, павінен пячыся ў вялікай печы на вялікіх рожнах (такі можна з'есці ў Грузіі ці Узбекістане).

У нашых жа ўмовах, калі нават не заўсёды можна купіць бараніну ў магазіне, прапаную выкарыстаць ў гэтых мэтах валавіну. Зрэшты, бараніну нават не кожны любіць.

Для шашлыка бярэм валовую паляндвіцу (так, каб на кожную асобу прыпала па 100—150 г). Калі паляндвіца тоўстая, то трэба яе перарэзаць спачатку ўздоўж, а пасля нарэзаць упоперак, каб атрымаліся кавалкі дыяметрам у 3 см, а таўшчынёй у 1,5 см.

Мяса трэба збіць тупым канцом нажа, уфармаваць у кружкі, нацерці часнаком, спырскаць воцатам. Падрыхтаваныя такім чынам кавалачкі паляндвіцы трэба злажыць у міску і паставіць у халоднае месца прынамсі на 2 гадзіны.

Цяпер можна выстругаць палачкі, на якія мяса будзем начапляць. Можна такія палачкі купіць у гаспадарчым магазіне, а можна нават выкарыстаць замест палачак звычайныя жалезныя пруткі, якімі мы вяжам свэтры ці рукавіцы.

На палачкі начапляем упeрамешку: кавалак паляндвіцы, скрылёк цыбулі, кавалак саланіны ці свіной грудзінкі, ізноў цыбулю, мяса і г.д.

Цяпер падрыхтаваны шашлык кладзем на патэльні з тлушчам і ўстаўляем у гарачую духоўку. Шашлык павінен пячыся так доўга, пакуль мяса не зробіцца зверху карычневае, а ў сярэдзіне ружовае. Пекучы шашлык, трэба яго час ад часу паліваць тлушчам з патэльні.

Падаваць шашлык трэба адразу, выняўшы з печы, на падагрэтых талерках. Да шашлыка наогул падаюць рыс, але смажаная бульба з ім таксама вельмі смакуе.

Думаю, што неабходна ўводзіць у наш рацыён патравы новыя, ды новых як найбольш. У большасці гаспадынь ёсць жалезны запас 15—20 блюд, якімі яны кормяць сям'ю ўсё жыццё. Гэта і не здарава, ды добраму апетыту не спрыяе.

**Гаспадыня**




### ПТУШЫНЫЯ ГНЁЗДЫ

Калі паявіліся на нашай зямлі першыя птушыныя гнёзды?

Некаторыя вучоныя даказваюць, што ўжо нейкіх 700 мільёнаў гадоў таму назад. У той час (канец мезазойскай эры) рэзка змяніўся наш зямны клімат. Стаў ён болей сухі і халодны, паявіліся рэзкія хістанні тэмпературы і тады, мабыць, некаторыя продкі нашых птушак перасталі сабе грабсці ямы, а пачалі будаваць гнёзды.

Гняздо патрэбна птушкам перш за ўсё для таго, каб выгадаваць птушанят і схавацца перад ворагамі. Птушкі вельмі ахвотна абсталёўваюць свае кватэры ў пячорах і дуплах. Здараецца, што за месца ў дупле заводзяць яны фармальныя баі, аж да смерці. Аднак пакража і разбурэнне гнёздаў — гэта ў птушыным свеце штодзённая з'ява. У тым жа праяўляецца іх інстынктоўная барацьба за існаванне — нармальны закон прыроды.

Для пабудовы гнёздаў птушкі выкарыстоўваюць самыя розныя матэрыялы: сучкі, палачкі, травінкі, галінкі, паперу, шматкі, павуцінне з коканаў насякомых, лісцё, галінкі, а нават... каменні. Вось пінгвін Адэлі будуе менавіта сваё гняздо з каменняў. Калі такое гняздо залье вада, самец наносіць столькі каменняў, каб яйкі не пачалі плываць і не разбіліся. Адна сям'я арлоў падрыхтавала сабе гняздо, якое важыла каля 2-х тон. Арлы карысталіся ім на працягу 36 гадоў. Яно служыла б і далей, але ураган вывернуў дрэва. Амерыканец Хавер Шмідт знайшоў гняздо белага бусла, якім гэтыя птушкі карысталіся на працягу 400 гадоў: ад 1549 да 1930 года. Часам майстэрства крылатых будаўнікоў бывае так дасканалае, што паяўляюцца гнёзды-дамы — з высокімі сценкамі і дахам. Такія гнёзды добра ахоўваюць іх уласнікаў ад сонца і дажджу, асабліва ва ўмовах трапічнай спякоты і трапічных ліўняў, якія безупынку прадаўжаюцца па некалькі месяцаў.



Каб абараніцца перад ворагамі, многія птушкі закладаюць свае гнёзды на калючых дрэвах, а афрыканскі ткач будуе вакол свайго гнязда калючую загарадзь.

Здараецца аднак, што некаторыя птушкі зусім нічога не будуюць і не дбаюць пра свае гнёзды. Апрача славутай зязюлі можна тут перш за ўсё ўказаць імператарскага пінгвіна. Водзіцца ён у суровым антарктычным клімаце. Зносіць адно адзінае яйцо і не расстаецца з ім, пакуль не выклюецца з яго маладое пінгвяня. Носіць тады гэтае яйцо на сваіх нагах і зверху прыкрывае фалдамі сваёй скуры з густым пухам. Такім чынам, ахоўвае яйцо ад лютага марозу і абагравае — аж пакуль яно праклюецца.

Находлівасць у птушыным свеце не раз здзіўляла чалавека. Іншы даследчык птушыных звычаяў Ван Самерэн наглядаў вось гэтакі малюнак: зялёная дравесная змяя старалася дастацца да гнязда ачкаватага ткача, у якім знаходзіліся птушаняты. Удалося ёй ужо дабрацца на самы край тонкай галінкі, дзе вісела гэтае гняздо, аднак не змагла яна пралезці праз вузенькі «рукаўчык-праход». Так і абсунулася і паляцела ў рэчку.

У нашых лясах такіх дзіваў не сустрэнеш. Аднак варта памятаць, што птушкі — сябры чалавека і нельга разбураць іх гнёздаў, нельга падбіраць яек і нішчыць маленькіх бездапаможных птушанят.

(вр)



*Розныя віды птушыных гнёздаў.*

## Літаратурныя гульні

За правільную развязку літаратурных гульняў з 12, 14 і 19 нумараў «Нівы» ўзнагароды выйгралі: М. Цыбарт, Рава Мазавецкая; М. Радзіванюк, Міхноўка; М. Сапёлка, Масева І; Л. Вавульская, Беласток 2; М. Асташэўская, Новая Воля; В. Ліцвінюк, Якубова; П. Кулік, Тафілаўцы; Е. Манаховіч, Зубава; Л. Пятэльская, Свіслачаны; З. Попік, Сабятын — 88; Ю. Лукша, Лука; Я. Адамец, Сакі; М. Грыцук, Пяскі; Г. Тур, Сухінічы; А. Мінюк, Пасынкі; А. Шварц, Нараўка; П. Гапанюк, Жукі; Л. Гацута, Навакорніна 23; В. Сегень, Старакорнін; Ю. Несцярук, Дубічы Царкоўныя; І. Вайцешук, Габяты; Я. Рыгаровіч, Новая Луплянка; М. Панфілюк, Дубічы Царкоўныя; В. Панасюк, Бaброўка; В. Дзмітрук, Выган; Ст. Давідовіч, Старая Луплянка; В. Казарэз, Раманова.

## ЛЕКАР ПРЫРОДА

Елка звычайная. Сабраныя свежыя пупышкі выкарыстоўваюцца ў выглядзе адвару. На шклянку адвару бярэцца 10 пупышак. П'юць адвар пры туберкулёзе лёгкіх.

Пры радыкуліце свежыя лапкі елкі гатуюць з соллю і робяць гарачыя ванны. На ванну — кілаграм лапак і кілаграм солі.

Сабраную пры дапамозе падсечкі смалу пераварваюць са шмальцам і ўжываюць гэтую мазь пры фурункулёзе, нарывах. (Рыхтуецца з разліку 1:1).

## Ці ведаеце, што...

...сярод карысных насякомых, якія інтэнсіўна знішчаюць шкоднікаў лесу, першае месца, бадай, належыць мурашкам. Асабліва вялікую карысць прыносяць звычайныя рудыя лясныя мурашкі. Вучоныя падлічылі, што сярэдняя іх сям'я за суткі знішчае больш як 20 тысяч шкодных насякомых і вусеняў.

Мурашкі перамешваюць і ўзрыхляюць глебу, павышаюць яе ўрадлівасць.



## Чвэрць стагоддзя назад




Такім чынам, дзень 3 мая 1945 года прынёс першы вынік: труп Гебельса быў знойдзены. Каб выключыць магчымасць памылкі, труп Гебельса быў паказаны амаль дваццаці апазнавальнікам (аж да таго, што значна пазней быў затрыманы начальнік асабістай варты Гебельса Вільгельм Экольд, то была праведзена новая экспертыза, і Экольд пацвердзіў, што гэта Гебельс).

Але гэта быў толькі пачатак. Трэба было шукаць Гітлера — мёртвага ці жывога.

*Сад імперскай канцылярыі 3-га, 4-га і 5 мая 1945 года*

Прадоўжым расказ І. І. Кліменкі, які спыніўся на падзеях 3-га мая: «Вядома, мы пыталіся ўжо ў Фоса, дзе ж Гітлер. Фос не даваў пэўнага адказу і гаварыў толькі аб тым, што ён выходзіў з Берліна разам з ад'ютантам Гітлера, а тыя расказалі яму, што Гітлер пакончыў самагубствам і труп яго спален у садзе імперскай канцылярыі.

Пасля допыту 3-га мая я, Фос, падпалкоўнік з разведаддзела арміі, а таксама перакладчык, паехалі ў імперскую канцылярыю. Спусціліся ў бункер. Было цёмна. Мы свяцілі ліхтарыкамі. Фос паводзіў сябе неяк дзіўна, нерваваўся, штосьці гаварыў незразумелае. Потым мы выйшлі наверх і апынуліся ў двары, непадалёк ад запаснога выхаду.

Было каля 9 гадзін вечара. Мы падышлі да вялікага сухога басейна ў двары, у якім ляжала шмат трупаў. Тут Фос, паказаўшы на адзін, сказаў:

— Вось гэта труп Гітлера!

Гэты труп быў апрануты ў касцюм, на нагах — цыраваныя шкарпэткі.

Але праз мінуту Фос засумняваўся.

— Не, не, я не магу дакладна сцвярджаць, што гэта Гітлер...

Па праўдзе кажучы, і ў мяне цыраваныя шкарпэткі выклікалі некаторае сумненне...

Вярнуўшыся ў Плетцэнзее, я загадаў знайсці сярод палонных чалавека, які ведае ў твар Гітлера і можа нам дапамагчы ў апазнанні.

У 11 гадзін 4 мая я з шасцю апазнавальнікамі зноў вярнуўся ў сад імперскай канцылярыі. Падышлі да басейна, а там ужо трупа няма! Зайшлі ў залу, дзе ляжаў труп чалавека, падобнага да Гітлера. З шасці апазнавальнікаў толькі адзін сказаў, што гэта, магчыма, Гітлер. Іншыя пяць катэгарычна адмаўлялі.

Са мной быў яшчэ камандзір узвода старшы лейтэнант Панасаў і некалькі салдат. Хтосьці з салдат папрасіў мяне паказаць, дзе знайшлі Гебельса. Я пайшоў з імі ў сад, да выхаду з бункера.

У гэты час салдат нашага ўзвода Іван Чуракоў залез у варонку, што знаходзілася побач і закіданую нейкімі спаленымі паперамі. Я ўбачыў, што тут тырчыць «фауст-патрон», і крыкнуў Чуракову:

— Давай вылазь, яшчэ ўзарвецца!

На гэта мне Чуракоў адказаў:

— Таварыш падпалкоўнік, адгэтуль ногі тырчаць!

Пачалі раскопваць, выцягнулі два трупы — адзін мужчынскі, другі жаночы, абодва вельмі абпалены. Вядома, у гэты момант у мяне нават і думкі не было, што гэта могуць быць трупы Гітлера і Евы Браун, паколькі лічыў, што труп Гітлера ўжо ляжаў у будынку імперскай канцылярыі, яго толькі трэба апазнаць. Таму я загадаў загарнуць іх ў коўдры, якія ляжалі побач, і закапаць зноў. А ў будынку канцылярыі займацца апазнаннем...»

Як гэта ні парадаксальна, але найбольшая колькасць сведчанняў — пачынаючы ад вусных, канчаючы кінематаграфічнымі — ёсць наконт гэтага трупа, які ледзь было не пераблытаў ўсе пошукі ў імперскай канцылярыі.

Відаць, псеўда-Гітлера бачылі ў імперскай канцылярыі многія савецкія афіцэры і салдаты, што прымусіла «Военно-исторический журнал» у маі 1965 года змясціць гэта фота і растлумачыць, што гутарка ідзе аб сапраўдным непаразуменні.

І. І. Кліменка быў не адзіным сведкам «паяўлення трупа ў неабпаленым кіцелі. Вось што мне паведаміў кінааператар Міхаіл Якаўлевіч Пасельскі:

«Ужо 2 мая мы зрабілі першыя здымкі ў будынку і ў садзе імперскай канцылярыі. Потым мы прадоўжылі здымкі — гэта было, наколькі я памятаю, 4 мая, калі мы разам з апаратарам І. В. Пановым зноў прыехалі ў імперскую канцылярыю. На гэты раз будынак быў ачэплен. Нам давялося прымаць меры, каб у яго папасці. І. В. Паноў дабіўся пропуску і, прайшоўшы ўнутр, мы ўбачылі, што ў адным з пакояў ляжаў труп у кіцелі. «Ідзе апазнанне, — сказалі нам, — гэта, напэўна, Гітлер».

Работай па апазнанню кіраваў генерал. Памятаю, ён узяў вялікі аркуш паперы і разлінаваў напалам. Тых немцаў, якіх прывялі для апазнання трупа, прымушалі распісвацца злева або справа — у залежнасці ад таго, ці лічаць яны, што гэта труп Гітлера, ці не. Большасць распісвалася ў тым, што гэта не Гітлер.

Нам дазволілі зрабіць здымкі. Але ў будынку было мала святла, і прыйшлося перанесці труп у сад. Плёнка была накіравана ў Маскву, аднак нам пасля сказалі, што гэта не быў труп Гітлера.»

Сярод афіцэраў і генералаў І-га Беларускага фронту не было нікога, хто калі-небудзь бачыў Гітлера. Але ў Берліне аказаліся савецкія дыпламаты, якія бачылі Гітлера да вайны. Хто ж іменна? Мне назвалі імя В. С. Сямёнава. Але ў гутарцы са мной ён паведаміў, што прыехаў у Берлін пазней, і выказаў меркаванне, што гутарка ідзе пра А. А. Смірнова.

Летам 1968 года я сустрэў А. А. Смірнова і, прызнаюся, з некаторай баязлівасцю запытаў:

— Андрэй Андрэевіч, ці не вы былі тым савецкім дыпламатам, які ў імперскай канцылярыі апазнаў труп Гітлера?

А. А. Смірноў расказаў, што быў у тыя дні палітычным саветнікам камандуючага І-га Беларускага фронту. Ён прыбыў з Масквы ў штаб фронту, а пры першай магчымасці паехаў у Бер-

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЖУРНАЛІСТЫ І ЛІТАРАТАРЫ НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

У маі адзначаюцца Дні асветы кніжкі і друку. У сувязі з гэтым гайнаўскі аддзел БГКТ супольна з аддзелам культуры ПРН у клубах «Селяніна» і «Руху», у школах і святліцах арганізавалі спатканні з журналістамі «Нівы» і беларускімі пісьменнікамі. 6-га мая рэдактар «Зоркі» Яніна Чэрнякевіч і аўтар вершаў для дзяцей Зося Стаськевіч спаткаліся са школьнікамі ў Ляшуках і Новым Корніне.

14 мая адбыліся такія спатканні са школьнай моладдзю і дарослымі ў Клейніках, Карыцісках, Старым Корніне, Новым Беразове і Койлах з журналістамі «Нівы» Міхасём Хмялеўскім, Верай Валкавыцкай, Сакратам Яновічам і Уладзімірам Паўлючуком.

16 і 17 мая зноў наведалі некаторыя мясцовасці Сакрат Яновіч і Алесь Барскі. У першым дню пабывалі яны ў школах у Махнатым, Моры, у Чаромсе — асадзе і Чаромсе — вёсцы; у школах і клубах чыталі яны свае творы для школьнікаў і старэйшага насельніцтва. Прыехалі з літаратарамі старшыня і сакратар гайнаўскага аддзела Аляксандр Іванюк і Віктар Бура.

17 мая пісьменнікі прынялі ўдзел ва ўрачыстасці, прысвечанай «Дню селяніна», якая адбывалася ў Свінароях. Там быў арганізаваны кніжны кірмаш, на якім літаратары давалі аўтографы на сваіх кніжках. Вечарам спаткаліся літаратары з насельніцтвам вёсак Карыціскі і Старога Беразова. Былі з імі намеснік старшыні гайнаўскага аддзела БГКТ Мікалай Суліма і член праўлення аддзела Аляксей Шчука.

*Тэкст і фота Віктар Бура*



*Зося Стаськевіч і Яніна Чэрнякевіч зрабілі здымак з найлепшай вучаніцай школы ў Новым Корніне.*

## ДАРОЖНЫ ЧЫН

Дарога, якая вядзе з Давідавіч да Паўлаў у Бельскім павеце, у адным месцы была вельмі дрэнная. Дзякуючы арганізатарскай ролі нашага солтыса, сяляне Давідавіч прыступілі да грамадскага дарожнага чыну. Кожны гаспадар быў абавязаны 10 разоў завезці зямлі і жвіру ў вызначанае месца. Работа доўга не працягвалася. На працягу трох дзён стометровы адрэзак дарогі быў вырамантаваны.

*Коля Міхалюк*

## У БІБЛІЯТЭЦЫ Ў ЮШКАВЫМ ГРУДЗЕ

Грамадскай бібліятэкай у Юшкавым Грудзе (Беластоцкі павет) карыстаецца 137 чытачоў. Бібліятэка налічвае 6936 кніжак. Найлепш працуюць бібліятэчныя пункты ў Цыванюках, Бандарах, Рудні, Круглым Ляску. Бібліятэкар пані Ніна Тарасевіч здабыла сабе такіх сталых чытачоў, якія вельмі многа чытаюць. З'яўляюцца імі Ольга Матвейчык, Славамір Матвейчук, Юзэф Бувай, Аляксандр Матвейчык, Фелікс Сушынскі, Ніна Сакевіч і іншыя. Некаторыя з іх прачытваюць штомесяц больш 20 кніжак. 63-гадовая Ольга Матвейчык чытае розныя кніжкі, а потым расказвае іх змест суседзям і знаёмым. Шкада толькі, што ёсць запатрабаванне на новыя кніжкі аб сучаснай тэхніцы, а іх купляецца ў год не больш 30 экземпляраў. Каб заахвоціць чытачоў да кніжак, пані Тарасевіч робіць выстаўку кніжных навінак.

*Ц. Я.*




*Дарагое Сэрцайка!*

Ёля з Беластока і Жэня з Бельшчыны! Аб пегах і крэмах мы ўжо пісалі не раз. Калі сістэматычна чытаеце «Ніву», павінны таксама прачытаць аб гэтым. Адказваю коратка: трэба зайсці ў любую драгерыю і там папрасіць «крэм процiў пегаў». Яшчэ лепш, калі б атрымалі савецкі крэм «Метаморфоза», мо хто з вашых знаёмых едзе ў Савецкі Саюз, дык можаце папрасіць, каб купілі (ён вельмі танны).

Эля з Гайнаўшчыны! Мо ў вашай вёсцы існуе кола ЛьЗС, тады простая справа, калі не, — дык мо суседняя вёска мае, тады можаш далучыцца да іх. Калі гэта не развязвае твае справы, дык знайдзі яшчэ ахвотных займацца спортам і залажыце кола ЛьЗС у сваёй вёсцы. У тым выпадку звярніцеся ў павятовае праўленне ЛьЗС у Гайнаўцы, там вам дапамогуць.

Ваня з Бельшчыны! Напэўна заўсёды лепш паступіць у школу, чым на курс. Хіба што не дазваляюць матэрыяльныя ўмовы, тады па курсе мажлівасць хутчэйшага заробку. Аднак, калі б матэрыяльныя ўмовы табе дазвалялі, старайся паступіць у засадніцую школу. Там атрымаеш поўнапраўныя слёсарскія кваліфікацыі. Жадаю поспехаў.

*Сэрцайка*

## АПЯКУЮЦЦА МАГІЛАМІ

Пачатковая школа ў Мілейчыцах апякуецца магіламі савецкіх салдат, якія загінулі пры вызваленні Сямяціцкага павета. У пачатку мая васьмікласнікі парадкавалі магілы, садзілі кветкі, наводзілі парадак.

На здымку: удзельнікі грамадскага чыну на могілках савецкіх салдат.



*Фота Сяргей Крэйза Мілейчыцы*

## ВЕСТКІ З ДЗЕРНЯКОВА

У вёсцы Дзернякова (Беластоцкі павет) актыўная моладзь, а перш за ўсё члены ЗМВ і БГКТ. Моладзь у апошні час прывяла ў належны парадак вясковую святліцу: пабяліла сцены, зрабіла з дошак новую сцэну і павесіла новыя актуальныя насценгазеткі. У далейшым моладзь намерана памаляваць сцэну.

Перад святліцай, якая змяшчаецца ў школьным будынку, маладзёжныя актывісты супольна з школьнікамі зрабілі лавачкі і клумбы. Нядаўна ў Дзернякове адбыўся сход гуртка БГКТ, і моладзь пастанавіла стварыць у сябе мастацкі самадзейны гурток, а таксама арганізаваць некалькі танцавальных вечарын. Да актыўных маладых людзей належаць Тамара Лукашук, Галіна Бяла, Валянціна Карповіч, Зіна Тамашэвіч і другія. Варта адзначыць, што моладзь у Дзернякове хоча працаваць для сябе і для свайго асяроддзя.

*Янка Цялушэцкі*

## АЛЯКСАНДР СТОЦКІ

Аляксандр Стоцкі з'яўляецца пісьманосцам на пошце ў Семяноўцы (Гайнаўскі павет). На гэтай пасадзе працуе ён больш 14 год. Людзі яго паважаюць за дакладнасць і тэрміновасць развожвання лістаў, паведамленняў, пачак, а перш за ўсё газет. Аляксандр Стоцкі з'яўляецца таксама добрым прапагандыстам «Нівы».

*Фота Віктар Бура*



## ЯК ВЫКОНВАЕЦЦА ПЛАН

Кожная грамадская рада нарадовая мае план закупу мінеральных угнаенняў. Таксама і кожны гаспадар мае прыдзелены абавязковы план. Працаўнікі ГРН і аграномы ў сувязі з гэтым маюць шмат працы, бо трэба так прапагандаваць мінеральныя ўгнаенні, каб усе гаспадары іх закупілі. Па-рознаму спраўляюцца з гэтымі заданнямі паасобныя ГРН-ы. ГРН Грабаўка ў Беластоцкім павеце на дзень 20-га мая выканала ў 108% план закупу мінеральных угнаенняў, а суседняя ГРН Агароднічкі — толькі ў 88% (мх)

## ЗАЯЎКІ НА КАНЦЭРТЫ

Эстрада Галоўнага праўлення БГКТ «Лявоніха» выязджае ўжо з канцэртамі. Выступала нядаўна ў Семяноўцы, Граеве, Кузніцы і іншых мясцовасцях. Запатрабаванне на яе канцэрты грамаднае. Куды не паедзеш, заўсёды пачынаецца размова ад пытання «А калі да нас прыедзе «Лявоніха»? У Дуброўскім павеце ў кожнай вёсцы дапамінаюцца канцэртаў «Лявоніхі». Безумоўна, няма ў яе магчымасці выступіць усюды, дзе яе чакаюць, бо ў месяц дае яна не больш 10 канцэртаў.

Плануецца, што «Лявоніха» выступіць у вялікай зале кіно ў Дуброве 14 чэрвеня. У гэты дзень адбудзецца ў Дуброве павятовая канферэнцыя БГКТ, на якую будуць запрошаны ўсе члены БГКТ гэтага павета. (мх)

## ГУРТКІ ЧЫРВОНАГА КРЫЖА

На Бельшчыне існуе 109 школьных гурткоў Чырвонага Крыжа, да якіх належыць 7000 членаў. Існуюць таксама 52 гурткі на прадпрыемствах і ў 18 грамадскіх радах нарадовых. Усе гурткі аказваюць належную дапамогу людзям падчас няшчасных выпадкаў. (XX)

---

лін. Вядома, ён адразу накіраваўся да знаёмых месц — да разбуранага будынка пасольства СССР на Унтэр-дэн-Ліндэн (тут да вайны Смірноў быў прэс-аташэ), міністэрства замежных спраў на Вільгельмштрасе, зайшоў ён і ў імперскую канцылярыю, дзе савецкі камендант прадэманстраваў яму «труп Гітлера».

— Вядома, — працягваў Андрэй Андрэевіч, — кожны, хто бачыў раней Гітлера, мог сказаць, што гэта не ён. Я адразу параіў каменданту вынесці труп...

Усё гэта прымусіла І. І. Кліменку зноў вярнуцца да знаходкі Чуракова. Раніцай 5 мая разам са сваім намеснікам капітанам Дзярабіным і шафёрам Цыбачкіным ён вярнуўся ў сад. Варонку раскапалі, вынялі з яе абодва трупы і склалі акт:

«г. Берлін, Дзеючая армія. 1945 года, мая месяца, 5.

Мною, гв. старшым лейтэнантам Панасавым Аляксеем Аляксандравічам, і радавымі Чыраковым Іванам Дзмітрыевічам, Алейнікам Яўгенам Сцяпанавічам і Серавухам Ільёй Яфрэмавічам у г. Берліне ў раёне рэйхсканцылярыі Гітлера, паблізу месца выяўлення трупаў Гебельса і яго жонкі, каля асабістага бамбасховішча Гітлера былі выяўлены і ўзяты два спаленыя трупы, адзін жаночы, другі мужчынскі.

Трупы вельмі абгарэлі, і без якіх-небудзь дадатковых даных апазнаць немагчыма.

Трупы знаходзіліся ў варонцы ад бомбы, у 3-х метрах ад уваходу ў гітлераўскае бамбасховішча, і засыпаны пластом зямлі.

Трупы захоўваюцца пры аддзеле контрразведкі «СМЕРШ» 79 стралковага корпуса.

Ці можна дакладна ўказаць месца, дзе была зроблена знаходка? Так, гэта можна зрабіць. Кліменка са сваёй групай яшчэ раз вярнуўся ў сад імперскай канцылярыі. Гэта было праз дзесяць дзён, 13 мая, пасля ідэнтыфікацыі і судовамедыцынскага ўскрыцця трупаў. Аднак прафесіянальная рыса контрразведчыка, які прывык правяраць самога сябе, прымусіла Кліменку зноў вярнуцца на «месца здарэння».

Справа ў тым, што савецкія патрулі затрымалі аднаго эсэсаўца, які аказаўся салдатам асабістай аховы фюрэра Гары Менгерсхаўзенам. Так як Менгерсхаузен быў відавочцам апошніх дзён бункера і спальвання цела Гітлера, яму прапанавалі даць паказанні аб тым, як быў спален і дзе закапан Гітлер. Пераадолеўшы страх, ён зрабіў гэта і, прыйшоўшы ў сад, падвёў савецкіх афіцэраў... да той самай варонкі, якую раскапаў Іван Чуракоў. Захаваўся акт, састаўлены пасля гэтага.

Акрамя таго, у варонцы, калі яе раскапалі глыбей, былі знойдзены трупы двух сабак, аб чым таксама склалі акт.

На гэтым заканчваецца частка пошукаў, што разгарнуліся ў садзе імперскай канцылярыі. Па загаду камандавання фронту гэты раён быў уключан у паласу 5-ай ударнай арміі. Штаб 3-й ударнай арміі быў перадыслацыраван ў паўночную частку горада (прыгарад Бух). На світанні 5 мая трупы Гітлера, Браун і двух сабак былі загорнуты групай Кліменкі ў коўдры, пакладзены ў драўляныя скрыні, вынесены з імперскай канцылярыі і затым адвезены ў аддзел контрразведкі 3-й ударнай арміі, што знаходзілася ў паўночным прыгарадзе Берліна Бух.

*(Працяг будзе)*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Porucznik jazdy" (radz.), 16—17. „Operacja Belgrad" (jugosł.), 18—19. „Na miłość nigdy nie jest zapóźno" (węgierski), 20—21.

**Дубіны**

„Koniec agenta W4C" (czeski), „Szósty lipca" (radz.), 20—21.

**Нараўка**

„Dziewczyna" (jugosł.), „Miłość i jazz" (ang.), 17—21.

**Нарва**

„Kochać jak Romeo" (jugosł.), „Siedem razy kobieta" (włoski), 17—21.

**Чыжы**

„Żyrafa w oknie" (czeski), „Kalejdoskop" (ang.), 17—21.

**Дубічы Царкоўныя**

„Partyzant z Lelejskiej góry" (jugosł.), „Stawka większa niż życie" (polski), 17—21.

**Арэшкава**

„Trzy dni Wiktora Czernaszewa" (radz.), „Stawka większa niż życie" (polski), 20—21.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Między wrześniem a majem" (polski), „Stawka większa niż życie" (polski), 17—21.
KINA

**Орля**

„Kapryśne lato" (czeski), „Tylko jedno życie" (radz.), 17—21.

**Райск**

„Biały pokój" (czeski), „Stawka większa niż życie" (polski), 17—21.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

„Skowronek" (węgierski), 16—17, „Sami na wyspie" (jugosł.), 18—19. „Lew pręży się do skoku" (węgierski), 20—21.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Янаў**

„Czekam w Monte Carlo" (polski), 17—21.

**Шудзялава**

„Winnetou" (jugosł.), cz. III. „1914—1918" (radz.), 17—21.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Marynarz Czyżyk" (radz.), 16—17. „Toast" (polski), 18—19. „Lew pręży się do skoku" (węgierski), 20—21.

**Мельнік**

„Grunt to zdrowie" (franc.), 16—17. „Życie zamku" (franc.), 18—19. „Ostatni świadek" (polski), 20—21.

**Мілейчыцы**

„Zwyczajny faszyzm" (radz.), 16—17. „Smarkula" (polski), 18—19. „Ostatni świadek" (polski), 20—21.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Kalejdoskop" (ang.), „Mansarda" (polski), 17—21.

**Новы двор**

„Winnetou" (jugosł.), cz. I i II.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 7.392 W—3

